# Свята, якое нельга забыць



Усё некалі бывае ў нас упершыню. Упершыню чалавек аднойчы ўбачыць сонца. Ён яшчэ і не ведае, як яно называецца, але ўжо спазнаў, што яно добрае, бо ярка свеціць, грэе і пяшчотна лашчыць усіх. Упершыню мы калісьці гаворым першае слова, робім першы ў нашым жыцці самастойны крок, ужо без падтрымкі мамінай рукі. Упершыню падаем на зямлю і даведваемся, што гэта балюча і не надта прыемна. Упершыню некалі пакаштуем шакаладу, мармеладу, какосу альбо горкага перцу. І адразу запамятаем, што перац нам не надта смачны. Упершыню аднойчы ідзем у школу, і яна нам здасца такой вялікай, што страшна зробіцца, каб у ёй не згубіцца.

Упершыню кожны з нас прыходзіць у касцёл. Праўда, у касцёл найчасцей упершыню нас прыносяць нашы хросныя бацькі. Але часам бывае і інакш. Словам, кожнае наша «ўпершыню» не падобнае на гэткае ж «упершыню», якое пражылі нашы сябры, мама з татам, дзядуля з бабуляй. Усё па-рознаму.

Упершыню дзіця аднойчы сустракаецца з Панам Езусам у святой Камуніі. Гэты дзень для кожнага чалавека таксама іншы, свой, адметны. Але ўсе мы добра запамятаем гэты дзень. На ўсё жыццё. Бо ў гэты дзень мы ўпершыню сустрэліся блізка-блізка з Тым, Хто нас сапраўды моцна любіць. І мы ў гэты дзень адказалі Яму поўнай узаемнасцю. Таму гэты дзень нельга забыць. Ніколі. Калі нават будзе потым шмат іншых прыгожых, цудоўных святаў.

Дзень Першай святой Камуніі... Наша вялікае свята, якое нельга забыць.

*«Хоць не бачыў Цябе я,*
*ды сэрца сэрцу сказала:*
*– Люблю».*

Такое сапраўды не забываецца...

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Шчаслівы Пахомка



Гэта было ў Росіцы, у 1942 годзе. Ішла вайна. А ў росіцкім касцёле сёстры законніцы рыхтавалі дзяцей да першай святой споведзі. Дзеці з радасцю слухалі пра тое, што іх Нехта моцна любіць. Навокал адны людзі забівалі другіх, кожны дзень не хапала хлеба і моцна хацелася есці. А недзе там, далёка, быў Той, Хто іх любіць...

Настаў дзень Першай святой Камуніі. У халодным касцёле, бо на дварэ была марозная зіма, айцы Антоні Ляшчэвіч і Юры Кашыра спавядалі дзяцей. Адна дзяўчынка так хвалявалася, што нават забылася ўсе свае грахі. Яна заплакала і пабегла ад спавядніцы. Ды сястра прыгарнула яе, пагаварыла ціхенька з ёй, і дзяўчынка ўсё ўспомніла. Потым была святая Імша. Айцец Антоні сказаў дзецям прыгожае казанне, казаў пра тое, што сёння для іх вельмі шчаслівы дзень і трэба ім яго добра запамятаць.

Калі дзеці прымалі перад алтаром святую Камунію, дарослыя плакалі. Нават сёстры і тыя таксама выцiралі вочы. Хлопчык Пахомка прыняў Камунію і раптам сарваўся з месца ды пабег, падскокваючы, па касцёле. Адна сястра схапіла яго за руку, а хлопчык гучна выгукнуў ёй: «Але ж гэта такая радасць! У маім сэрцы ёсць сам Пан Езус!».

Праз нейкі час у Росіцу прыйшлі нямецкія карнікі і забілі, спалілі ў агні вельмі шмат ні ў чым не вінаватых людзей. Загінуў тады і Пахомка. І, напэўна ж, ён сустрэўся ў небе са святым Тарцыем, святым Дамінікам Савіо, святой дзяўчынкай Марыяй Гарэцці... Бо любоў не памірае ніколі.

*А.Барткевіч*


*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 2 (60)/2013 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ, 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 2904.
Падпісана да друку 03.06.2013 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Для Бога і бліжніх

***«Інтэрв’ю» са святым Тарцыем***



*— Дарагі святы Тарцый, заўсёды хацеў паразмаўляць з табой, ды ўсё трохі саромеўся, бо заўсёды захапляўся тваёй адвагай, а я, разумееш, бываю баязлівы...*

— Прыдумаў!.. *(Смяецца.)* Ніколі не саромейся. Дарэчы, я таксама ніколі не быў надта смелым героем.

*— Але ж я ведаю, што ты прыняў мучаніцкую смерць ад рук ворагаў Хрыста і Касцёла...*

— Дык жа ў мяне не было выйсця! Я жыў у вельмі складаны для хрысціянаў час, калі вера Хрыстова жорстка пераследавалася. Быў я міністрантам, акалітам і часта насіў святую Камунію хворым ды вязням. Вось і тады панёс святую Камунію хрысціянам, якія былі кінутыя ў вязніцу цэзарам Дэцыем. Мяне перанялі хуліганы, якія праз сваю недасведчанасць маглі проста цяжка награшыць, знішчыўшы святую Камунію. Вось я і не пажадаў ім аддаць сваёй каштоўнай ношы... Давялося сцярпець шмат балючых удараў, а потым памерці...



*— Ты так проста пра гэта кажаш...*

— А як інакш гаварыць пра сур’ёзнае? Важныя рэчы, Яська, заўсёды простыя. Святая Камунія — гэта Хлеб, Цела Хрыста. Яна дае нам жыццё і моц, таму мы павінны яе шанаваць. А сітуацыі бываюць розныя... Са мной вось так здарылася...

*— І не знайшлося нікога, хто пажадаў бы цябе выратаваць?*

— Чаму не знайшлося? За мяне заступіўся адзін жаўнер, які, дарэчы, таксама быў хрысціянінам.

Ён прагнаў тых хуліганаў, а мяне на руках занёс дахаты. Ды было позна — занадта моцна мяне пабілі...

*— А каб ты аддаў тым нядобрым хлопцам Камунію, то выжыў бы?*

— Магчыма. Толькі як бы я жыў потым, з такім цяжарам здрады? Не, Яська, я не шкадую, што ўсё атрымалася так, а не іначай. Лепш рана памерці, чым жыць доўга з брыдкім каменем на сэрцы.

*— Святы Тарцый, дзякуй табе за тваю смеласць і рашучасць, за вернасць Хрысту. Ты з'яўляешся нябесным апекуном міністрантаў, а значыць і маім таксама. Дзякуй. А скажы, калі ласка, што табе найбольш не падабаецца ў нас, міністрантах XXI стагоддзя?*

— Я не магу казаць ды вызначаць, што мне не падабаецца. Але мне часам сапраўды бывае балюча, калі хлопцы сёння абяцаюць Езусу адно, а заўтра ўжо і забыліся на свае абяцанні. Неяк гэта не сур'ёзна...

*— Мой дзядуля тады кажа: «Якая ж кароткая памяць у чалавечка!».*

– Менавіта *(смяецца)*. А таму жадаю і табе, Яська, і ўсім чытачам беларускага «Маленькага рыцара Беззаганнай» до-о-оўгай памяці, трывалай! І таксама жадаю вялікай пашаны да Найсвяцейшага Сакрамэнту. Беражыце, хлопцы і дзяўчаты, наш вялікі скарб, дадзены нам самім Богам!

*— Дзякуй, дарагі Тарцый!*

*Гутарыў*
*Яська Запытальнік.*



*Ксёндз Ян Твардоўскі*

# Бачны і нябачны

Урачыстасць Спаслання Святога Духа — гэта свята Духа, а не цела. Адзін хлопец сказаў:

*На Божае Нараджэнне ў першы дзень святаў я ем пернікі і арэхі.*
*На Вялікдзень ем фарбаваныя яйкі, паляндвіцу, мазуркі.*
*А што я буду есці на Сёмуху?*
*Напярэдадні Божага Нараджэння і Вялікадня*
*мамы прыносяць у касцёл цэлыя пакункі ежы,*
*а на Сёмуху —*
*пустыя страўнікі.*

Спасланне Духа Святога, альбо Сёмуха — гэта свята нябачнага Бога і ўсяго таго, чаго мы не бачым, але што вельмі важна ў нашым жыцці.

У часе споведзі бачым святара — высокага альбо нізкага, у акулярах альбо без іх. Бачым канфесіянал, як святую шафу, але не бачым, што сам Пан Езус, найважнейшы, слухае і прабачае грахі тым, хто шкадуе аб сваіх кепскіх учынках.

У дзень Першай святой Камуніі бачым дзяцей, якія сядзяць на каралеўскіх крэслах пры кленчніку, пакрытым тканым сто гадоў таму дыванам, бачым малую дзяўчынку з цёмнымі валасамі і ружовымі стакроткамі, хлопца, апранутага, як жаніх, бачым святара, калі ён падыдзе і падасць ім святую Камунію. Здаецца, белы аплатак хлеба такі невялічкі, што малая дзяўчынка магла б схаваць яго ў сваёй далоньцы. Тым часам у той невялікай



святой Камуніі такая вялікая моц, увесь нябачны Пан Езус, перад якім дзве тысячы гадоў кленчыць Папа Рымскі і ўсе працэсіі па чарзе.

Якая ж моц у тым, што ў свеце нябачнае!

У жыцці тое, што нябачнае, мацнейшае за тое, што бачнае.

Не бачым нашай душы, таго, што ў нас любіць, сумуе, моліцца. Аднак без душы чалавек мёртвы і нічога не варты.

Які ж магутны нябачны Бог, каторы Ёсць.

Да нябачнага Бога трэба маліцца. Пра сваю нябачную душу трэба клапаціцца.

Калі чалавек моліцца да Нябачнага, то хоць і слабы, ён можа пераносіць горы. Часам ён бедны і невядома адкуль бярэ і раздае іншым грошы. Памірае — і жыве далей.

Якая ж гэта вялікая радасць — маліцца да нябачнага Бога і карміць сваю нябачную душу, каб быць добрым чалавекам!



*Пераклад з польскай І. Жарнасек.*
*Ілюстрацыі Станіслава Барбацкага.*




# Цудоўны падарунак

**«Першая Камунія з белым бантам»** — так называецца кніга ксяндза Яна Твардоўскага, якая выйшла нядаўна ў выдавецтве «Про Хрысто».

З творамі гэтага выдатнага польскага паэта нашы чытачы знаёмыя даўно, бо некаторыя з іх друкаваліся ў «Маленькім рыцары Беззаганнай». Слова ксяндза Яна заўсёды вельмі добрае, сагрэтае вялікай любоўю да сваіх чытачоў. Ён сам моцна палюбіў Пана Бога і ўсё сваё жыццё вучыў гэтаму іншых людзей. Слова ксяндза Яна і надалей вучыць нас, асцерагае ад неразумных учынкаў, натхняе рабіць добрыя справы, саграває астылыя сэрцы. Усё дзеля таго, каб і гэтыя сэрцы наноў адкрылі для сябе веліч, дабрыню і міласэрнасць нашага Бога.

Кніга можа стаць цудоўным падарункам на дзень Першай святой Камуніі. Яна будзе таксама цікавай і карыснай для ўсіх, хто любіць Пана Бога і прагне любіць Яго яшчэ мацней.

***І. Студзеньская***



«Будслаў», Сяргей Шэмет.

# Мая родная вёсачка Будслаў

У кожнага чалавека ёсць месца на зямлі, дзе ён нарадзіўся, дзе прайшло яго бестурботнае дзяцінства, месца, з якім звязаны шчаслівыя моманты яго жыцця.

У мяне таксама ёсць родны кут — вёсачка, дзе я нарадзілася, дзе праходзіць маё вясёлае і шчаслівае дзяцінства. Гэта мая родная вёска Будслаў.

Цяпер, гледзячы на наш прыгожы, квітнеючы Будслаў, цяжка ўявіць, што некалі на гэтым месцы быў лес. Сёння гэта вельмі сучасная вёска, у цэнтры якой узвышаецца велічны касцёл. Ён нагадвае самога Езуса, які, узняўшы ў неба рукі, заклікае нас да веры, благаслаўляючы кожны наш дзень.

Я вельмі шчаслівая, таму што магу кожны дзень наведваць наш Будслаўскі санктуарый, кожны дзень сустракацца з Маці Божай Будслаўскай, кожны раз давяраць ёй свае радасці і турботы, свае перажыванні і перамогі.



Наша святыня славіцца сваімі цудамі. Шмат было тут аздараўленняў хворых, навяртанняў да веры ў часы атэізму і розных іншых цудаў. Але мне цяпер здаецца самым вялікім цудам тое, што касцёл перажыў ліхалецце вайны, атэізму і застаўся не крануты ні снарадамі, ні неабдуманымі ўчынкамі атэістычнай улады. І гэта, я лічу, адбылося дзякуючы апецы Маці Божай Будслаўскай.

Гэтую апеку і падтрымку мы адчуваем заўсёды. Менавіта таму кожны год у ліпені мноства пілігрымаў спяшаецца да Будслаўскага санктуарыя, і наша Маці Божая Будслаўская сустракае ўсіх з любоўю. Яна чакае кожнага грэшніка, кожнага хворага, кожнага церпячага. Нездарма Маці Божая Будслаўская з'яўляецца Апякункаю Беларусі.

Я вельмі шчаслівая, што чатырыста гадоў таму назад Маці Божая абрала для свайго прытулку менавіта гэтае месца і што мне пашчасціла тут нарадзіцца і жыць.

*Дар'я Ермаковіч, 14 гадоў, в. Будслаў.*

## Маці Будслаўская

Ты нас заўсёды як маці вітаеш,
Ты нас цярпліва і верна чакаеш.
Наша Маці! Маці Касцёла!
Славяць Цябе гарады і сёлы.
Маці ласкавая, абарані
Ад вераломства, здрады, вайны.
Маці Будслаўская, нас атулі
Любоўю ў вечнасці і на зямлі.

*Віталій Раманчук,*
*г. Нясвіж, 12 гадоў.*



*«Маці Божая Будслаўская»,*
*Маргарыта Ясэпкіна,*
*г. Наваполоцк.*

# Увага: конкурс «Мой Будслаў» працягваецца



Сябры! Конкурс **«Мой Будслаў»** працягваецца. Запрашаем усіх, хто прыгожа малюе, складае вершы, можа прыгожа расказаць іншым пра тое, які ён, наш Будслаў, прыняць у ім удзел. Прымаюцца самыя розныя працы. Не лянуйцеся працаваць прыгожа! Лепшыя творы з'явяцца на старонках нашага часопіса, а пераможцаў, вядома, чакаюць узнагароды. Вынікі конкурсу будуць падведзеныя ў апошнім нумары часопіса за 2013 год.

**Свае працы дасылайце на адрас:**
**а/с 101, 220002 г. Мінск-2.**
**Альбо на e-mail: m.rycar@yandex.by**



# Перажыць шмат прыгодаў

***Госць часопіса — Іна Пяткевіч***

*— Іна, сябры цябе называюць скаўткай. Ды я і сам заўважыў, што ты часта ходзіш у прыгожым адзенні. Што гэта ўсё азначае?*

— Скаўты — гэта ваенна-патрыятычны хрысціянскі дзіцячы і моладзевы рух. Ён быў створаны ў 1907 годзе брытанскім ваенным разведчыкам Робертам Бадэн-Паўэлам і вельмі хутка распаўсюдзіўся



па ўсім свеце. Дайшоў, як бачыце, і да Беларусі. Я вельмі гэтаму рада.

*— Чым на практыцы займаюцца скаўты?*

— У Беларусі скаўты аб'яднаныя ў гэтак званыя парафіяльныя групы і займаюцца ўсім, чым і іх равеснікі ў іншых краінах, якія належаць да Федэрацыі скаўтаў Еўропы. Мы клапоцімся аб сваім здароўі, загартоўваем і фармуем свае характары, набываем многія практычныя навыкі, ажыццяўляем розныя служэнні і пазнаем Бога.

*— Колькі табе было гадоў, калі ты стала скаўткай?*

— Гэта адбылося два гады таму, мне тады было 22 гады. Так што, як бачыце, у нашу арганізацыю можна ўступаць у розным узросце. Але да таго я цэлых чатыры гады ўдзель-

нічала ў самых розных скаўцкіх сустрэчах.

*— Што змянілася ў тваім жыцці пасля таго, як ты ўступіла ў гэтую арганізацыю?*

— Змянілася само жыццё. Я ўдзельнічаю ў цікавых вандроўках па нашай краіне і за яе межамі. Дарэчы, я мацней палюбіла радзіму — убачыла ўсю прыгажосць Беларусі, больш даведалася пра яе багатую гісторыю. За гэтыя два гады я перажыла столькі цікавых прыгодаў! А яшчэ мне давялося і папрацаваць над сабой. Шмат што трэба было зламаць у сабе — выйсці са сваіх зонаў камфорту. Усё гэта дапамагло мне ўбачыць сапраўдныя цуды, якія падрыхтаваў для мяне Бог!



*— Недзе чуў жарт, што скаўты былі і будуць заўсёды, бо заўсёды былі і будуць хлопчыкі і дзяўчынкі, якія любяць бегаць па лесе, смажыць на вогнішчы хлеб і глядзець у начное неба. І ёсць таксама дарослыя, якія любяць свабоду. Што табе найбольш падабаецца рабіць?*

— Вандраваць. Вельмі цікава пазнаваць іншыя краіны, жыццё іншых народаў. Але самае важнае, што я, дзякуючы скаўтам, моцна палюбіла родную краіну.

*— Скажы, а статут вашай арганізацыі суровы? Яго цяжка выконваць? Цяжка ўвогуле быць скаўтам?*

— Нашы правілы пабудаваныя на Божых запаведзях, таму кожны хрысціянін іх ведае. Якім павінен быць скаўт? Ён мусіць дбаць пра





ўзросту называюць у нас *ваўчанятамі*, а дзяўчынак — *божымі кароўкамі*. Потым ідзе гэтак званая *Зялёная галіна,* да якой належаць хлопцы і дзяўчаты 13–16 гадоў. Ну а *Чырвоную галіну* стварае моладзь 17–20 гадоў. Іх яшчэ называюць у нас *маладой камандай вандроўнікаў*. А пасля 20 гадоў дзяўчаты ўтвараюць *«вогнішча»*, тут ужо пачынаюцца функцыі шэфаў.

свой гонар, каб заслужыць давер іншых. Ён верны сваёй краіне, бацькам, кіраўнікам і сваім падначаленым. Скаўт служыць свайму бліжняму і дапамагае яму ў дарозе да Бога. Ён павінен быць сябрам для ўсіх і братам для кожнага скаўта. Мы заўсёды павінны быць ветлівымі і высакароднымі, павінны берагчы прыроду, бо яна створана Богам...

*— А са скалькі гадоў хлопчык альбо дзяўчынка можа стаць скаўтам?*

— Самыя малодшыя (8–12 гадоў), дарэчы, хлопчыкаў гэтага



*— Як усё складана! Але цудоўна тое, што скаўтам можна быць доўга. Скажы, Іна, якія функцыі на вас ускладаюцца на фэсце ў Будславе?*

— Мы, так бы мовіць, належым да службы парадку — людзей жа на будслаўскіх фэстах збіраецца вельмі шмат...

*— А яшчэ вы ўпрыгожваеце фэст сваёй яркай формай. Сапраўды, душа радуецца, калі гляджу на вас!*

— Дык запрашаем!

*— Дзякуй.*

*А сярод вас, нашы чытачы, ёсць скаўты? Можа вы таксама раскажаце нам пра сваё жыццё-быццё? Будзем рады атрымаць і ад вас весткі! Мы ж у наступных нумарах пастараемся расказваць пра жыццё і дзейнасць беларускіх скаўтаў.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Маці добрай рады

Ты ёсць заўжды побач,
наша добрая Маці,
Ты верна чуваеш,
вартуючы скарбы, –
нашы сэрцы дзіцячыя.
Дай параду, Матуля,
як не згубіць нам розум,
калі спакушае хітра
наш равеснік
альбо нават дарослы...
*Ойча наш...*

Шапні, калі самі бязрадныя, –
*Вітай, Марыя...*
А заблукаем – на сцежку вядзі –
*Вітай, Марыя...*
Вучы, як не паддацца рэкламам, –
*Вітай, Марыя...*
Памажы згадзіцца з мамай і татам –
*Вітай, Марыя...*
Слухаць вучы нас Духа Святога –
*Вітай, Марыя...*
Спыні, калі штосьці цягне да злога, –
*Вітай, Марыя...*
Падкажы нам паціху добрыя думкі –
*Вітай, Марыя...*
Адгані ад нас злосць і пагарду –
*Вітай, Марыя...*
Памажы раіць добрае бліжняму –
*Вітай, Марыя...*
Не дазволь, каб хтосьці для нас
стаў мудрэйшы за Твайго Сына –
*Вітай, Марыя...*

*Тадэвуш Руціньскі.*
*Пераклад з польскай мовы*
*Ірыны Жарнасек.*



*Прыпавесці*

# Бог не памятае

Аднойчы да старой жанчыны, якая жыла ў далёкай вёсцы, з'явіўся Бог.

Яна расказала пра гэта святару, а той, клапоцячыся аб духоўным здароўі сваёй парафіянкі, сказаў ёй:

– Калі Бог з'явіцца да цябе ў наступны раз, папрасі Яго расказаць табе пра мае грахі, якія толькі Ён і ведае. Гэта і будзе доказам, што менавіта Бог, а не хтосьці іншы з'яўляецца да цябе.

Калі жанчына прыйшла зноў, святар запытаў, ці прыходзіў да яе Бог. Яна сцвярджальна кіўнула.

– Ты задала Яму маё пытанне?

– Так.

– І што Ён сказаў?

– Ён адказаў: «Скажы свайму святару, што Я забыў ягоныя грахі».

– Значыць, гэта сапраўды быў Бог, – прамовіў святар.

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...», – Масква: Трыяда, 2012.*



# *Люблю нашу Вілейку*





Яшчэ нядаўна мы з мамай жылі ў Вілейцы, а цяпер жывем у Наваполацку. Але мы памятаем пра Вілейку і тую нашу парафію. Там у мінулым годзе, 20 мая, я прыняла Першую святую Камунію. Гэта было такое цудоўнае свята! Здаецца, увесь горад яго святкаваў разам з намі. Нашы бацькі так цудоўна ўпрыгожылі яго морам кветак! Не, такое немагчыма забыць.

Мы з мамай і цяпер часта зазіраем на сайт вілейскай парафіі, з удзячнасцю і любоўю ўспамінаем і парафіянаў, і святароў — ксяндза Аляксандра і ксяндза Андрэя. А летам мы спадзяемся пайсці разам з вілейскімі сябрамі ў Будслаў. З нецярплівасцю чакаю таго часу.

*Маргарыта Ясэпкіна*

Ад рэдакцыі. *Дзякуй, Маргарыта, за твой цікавы ліст. У ім адчуваецца сум па старых сябрах і па тым горадзе, у якім ты нядаўна жыла. Гэта цудоўна, што ты іх памятаеш і любіш. А нядаўна ўжо ў Наваполацку ты атрымала ад нашага часопіса падарунак за ўдзел у конкурсе «Загадкі з Евангелля». У гэтым горадзе цябе таксама любяць і рады, што ты з сям'ёй з'явілася ў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Гэтым і цудоўны наш паўсюдны Касцёл, бо чалавек, дзе б ён ні быў, належыць да яго. І ў нашым святым Касцёле мы ўсе — як адно.*



# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Хвала на вышынях Богу*



**«Праслаўляць Цябе, Пане,**
**усе валадары зямныя,**
**калі пачуюць словы вуснаў Тваіх»**
(пар. Пс 138, 4)



На святой Імшы мы праслаўляем Пана Бога. Гімн «Хвала на вышынях Богу» — гэта спеў хвалы і ўдзячнасці Богу за Яго веліч, дабрыню і благаслаўленне нас, Ягоных дзяцей. А таксама ў гэтым спеве і наша вялікая надзея на Бога.

Кожны радок гэтага гімна прамаўляй альбо спявай сэрцам, бо ты гэтымі словамі праслаўляеш Створцу, Валадара неба і зямлі.



Уступная малітва святара пачынаецца словам: «Молімся...»

У хвіліне паўзы ўзбудзі ў сэрцы інтэнцыю, з якой ты прыйшоў на Імшу, падумай пра тое, што ты хочаш сёння сказаць Богу.



У малітве святара гучыць галоўная просьба да Пана Бога ад усёй сабранай супольнасці, а значыць, там ёсць таксама і твая просьба.





Пасля малітвы святара мы ўсе разам адказваем: «Амэн!».

У гэтым кароткім слове мы выказваем нашу поўную згоду: так, веру!

# Ці не я?

**Евангелле паводле святога Марка**
*Раздзел 14, вершы 17–19*

А калі звечарэла, Ён прыйшоў з Дванаццацю. І калі яны сядзелі за сталом і елі, Езус сказаў: **«Сапраўды кажу вам, што адзін з вас, які есць са Мною, выдасць Мяне»**. Яны засмуціліся і пачалі казаць Яму адзін за адным: «Ці не я?».





# Кожны раз...

Езуса выдаў адзін з Ягоных вучняў — Юда. Мы ўсе ведаем гэта і таму не любім Юды, часта нават, калі хочам сказаць пра чыйсьці вельмі брыдкі здрадніцкі ўчынак, то кажам: «Ён, як Юда...» Найвышэйшая абраза. Бо мы любім Езуса. Нам часта здаецца, што мы ні ў якім разе не маглі б здрадзіць Яму, бо мы ж моцна любім Езуса!



Але кожны раз, калі мы гаворым няпраўду, мы здраджваем Яму. Бо Ён — сама Праўда.

Кожны раз, калі мы не жадаем камусьці дапамагчы, мы здраджваем Езусу, бо Ён — сама Любоў.

Кожны раз, калі мы без пашаны ставімся да іншага чалавека, мы абражаем не толькі таго чалавека, але і Езуса, бо Ён — само Жыццё.

Пастараймася ж не рабіць Яму балюча...



# Гульні Загадкі

Сябры! Вясна, па ўсяму відно, далася ў знакі, бо вы, як я заўважаю, пачалі патрохі ленавацца: менш ужо адказаў на нашыя загадкі, і што яшчэ больш засмучае – менш старанна, прыгожа афармленых адказаў. Ой, калі ласка, не адпісвайцеся, абы штосьці напісаць і тым самым нібыта «паўдзельнічаць у конкурсе», бо неахайна напісаныя лісты, не падпісаныя малюнкі, выразкі з часопісаў па тэме мы не разглядаем.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

## ЗАГАДКІ З ЕВАНГЕЛЛЯ

- За якую міласціну ўзнагароджвае верніка Нябесны Айцец? (Мц 6, 1–4)
- Якія стравы спажываў Езус, калі знаходзіўся ў пустыні? (Лк 4)
- Што азначала свята Пяцідзясятніцы ў юдэяў? (Калі не ведаеш адказу, запытай у святара альбо сястры-законніцы).
- Якое хрысціянскае свята адзначаем мы на пяцідзясяты дзень пасля Уваскрасення Хрыстова? Прыгожа намалюй які-небудзь ягоны сімвал (на асобнай старонцы).
- Чаго папрасіў Езус у самаранкі? (Ян 4)
- Хто пабудаваў сінагогу ў Капернауме? (Лк 7)

Адказы на
**«Загадкі ад дзядзькі Анатоля Клышкі»**
Адам, Маісей, рыбы, д'ябал, Адам і Ева, суд над Езусам Хрыстом, у раі, нічога.

На гэты раз пераможцам зноў стала **Маргарыта Ясэпкіна** з Наваполацка, з чым мы яе і віншуем. Яна атрымае ад нас падарунак.

*Рэдакцыя*



## Крыж

*Гэтую крыжаванку даслалі з Вілейкі. На жаль, аўтар забыў сябе назваць. І ўсё ж мы вырашылі прапанаваць вам яе. Разгадаўшы гэтую крыжаванку, вы, сябры, прачытаеце слова, якім называюць адзін з перыядаў касцёльнага году.*

# Крыжаванкі



## ШТО МЫ ВЕДАЕМ ПРА НАШ БУДСЛАЎ?

**1. Будслаў гэта:**
а) горад на Палессі.
б) лагер для адпачынку турыстаў.
в) вёска на Мядзельшчыне.

**2. Касцёл у Будславе:**
а) катэдра
б) малая базыліка
в) базыліка

**3. У будслаўскім касцёле служаць:**
а) езуіты
б) базыліяне
в) францішкане

**4. Абраз Маці Будслаўскай прывезены з:**
а) Рыма
б) Грэцыі
в) Мінска

**5. Карона на абразе Маці Божай**
а) выкавана кавалём
б) падараваная Папам Рымскім
в) зроблена народным умельцам

**6. Абразу Маці Божай Будслаўскай у Беларусі**
а) 60 гадоў
б) 1000 гадоў
в) 400 гадоў

**7. Абраз Маці Божай Будслаўскай падараваў:**
а) князь Радзівіл
б) кампазітар Агінскі
в) папа Клімэнт VIII

**8. Хрысціянін прыязджае альбо прыходзіць у Будслаў:**
а) гандляром
б) песняром
в) пілігрымам

## аванка




**1.** Месяц, прысвечаны Панне Марыі.
**2.** Назва мясцовасці, дзе аб’явілася Маці Божая святой Бэрнадэце.
**3.** Горад, у якім знаходзіцца цудоўны абраз Маці Божай Вастрабрамскай.
**4.** Слова, якім заканчваецца кожная малітва.
**5.** Імя маці Панны Марыі.
**6.** Малітва, якая чытаецца падчас маёвага набажэнства.

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Вось дык кавалер!

Па зразумелых прычынах, ксёндз Лявон кветак жанчынам не дарыў. Калі не лічыць букета вяргіняў на першае ў сваім жыцці 1 верасня настаўніцы пачатковых класаў. Бо пазней ён ужо грунтоўна заўпарціўся, і маці нізавошта не магла ўгаварыць яго занесці ў школу букет. Сваёй жа маці ён таксама не купляў кветак, бо не меў для гэтага грошай. Але аднойчы сэканоміў на абедах у школьнай сталоўцы на калючы кактус з чырвонымі доўгімі голкамі – кактусы яна чамусьці любіць. Той калючы «дзед» да гэтага часу ў яе — любімая кветка на падваконні! Словам, такое ў яго было правіла — кветак не дарыць! А сёлета ўзяў ды парушыў яго. І здарылася вось што.

Прыдумаў гэта ксёндз Лявон зрабіць падарункі на 8 сакавіка сваім адзінокім парафіянкам, тым, каму ўжо даўно ніхто ніякіх не тое што кветак, але і ўвогуле падарункаў не дарыў. Сам не памятаў, з чаго нарадзілася такая ідэя, але як прыйшла яна ў галаву, дык і не пакінула. Ну а дзе ж ты іх накупляеш, столькі кветак — у парафіі вунь іх колькі, адзінокіх! Дык купіў у полацкай краме галовак цюльпанаў ды насадзіў зімою ў скрынкі. Прадаўшчыца параіла яшчэ й гіяцынтаў набыць, пахнуць, маўляў — не адарвацца. Забедаваў, што ўсе амаль грошы ўжо на цюльпаны патраціў. Дык яна раздобрылася ды насыпала яму гіяцынтаў у торбачку, бо вельмі ж ёй спадабалася ягоная ідэя. Вось што значыць — своечасова падзяліцца з добрым чалавекам сваім добрым намерам!

І такая прыгажосць на вокнах вырасла на пачатку вясны – словамі не апішаш! Але не шкада было раздаваць тую прыгажосць, зусім не шкада. Тым больш, што дзеці, якія разносілі кветкі старэнькім і хворым бабулькам, узамен прыносілі яму столькі падзякаў, што калі б ксёндз Лявон складаў іх у мех, то мех бы атрымаўся большы, чым у самога святога Мікалая! У парафіі толькі й гаварылі некалькі тыдняў пра тое, якім гжэчным кавалерам аказаўся ксёндз Лявон — павіншаваў з вясновым святам ці не з паўсотні жанчын!

***Прыгоду запісала І. Ж.***



# Галерэйка



*«Сустрэча», Даша КАВЕЦКАЯ, 9 гадоў, г. Браслаў.*



*«Сагнецца кожнае калена», Аня БЫХАВЕЦ, 12 гадоў, в. Чарнешчына, Полацкі р-н.*



*«Зямля Хрыста», Рэната ГРЫШКЕВІЧ, 8 гадоў, г. Мінск.*



*«Закіньце сеткі!», Аляксандр КАНАВАЛАЎ, 10 гадоў, г. Браслаў.*




*Анастасія ЛЯШКОВІЧ, г. Вілейка.*



*«Капліца», Дзіма ГАРБАЧЭЎСКІ, г. Браслаў.*

